Гродна
№17 (452),
25 верасня 2016

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ






## Паклікаными да няспыннага развіцця

Настаўнікі забяспечваюць маладых людзей гарманічным разумовым, маральным і эстэтычным выхаваннем

**Прафесія настаўніка – бадай што самая распаўсюджаная і патрэбная ў свеце. На яго вачах з маленькага хлопчыка ці дзяўчынкі вырастае Чалавек. І нават не веды адыгрываюць вызначальную ролю, але добрыя каштоўнасці, якія перадаюцца старэйшымі. Каб напаўняць дзяцей гэтымі багаццямі, трэба самім нястомна чэрпаць іх з крыніцы збаўлення. Па гэтай прычыне ў Гродне ўжо 15 гадоў існуе душпастырства выкладчыкаў, настаўнікаў і выхавацеляў.**

● працяг на с. 4



## З Марыяй у новы навучальны год

Пад такім дэвізам у трэцюю нядзелю верасня з гродзенскага францішканскага касцёла вырушыла пешая пілігрымка ў Капцёўку. Па традыцыі дзеці і моладзь, настаўнікі і выхавацелі, выкладчыкі і катэхеты адправіліся ў санктуарый Маці Божай Яснагорскай, Цярплівай Слухаючай, на Узгорку надзеі, каб на пачатку навучальнага і катэхетычнага года атрымаць Божае бласлаўленне.

● працяг на с. 5

### Каляндар падзей

***29 верасня***
*Свята свсв. арханёлаў Міхала, Габрыэля і Рафала. Св. Міхал – заступнік каталіцкага Касцёла ў Беларусі.*

***1 кастрычніка***
*Распачацце ружанцовага набажэнства. Заахвочваем да ружанцовай малітвы ў касцёлах, капліцах і сем'ях.*

***2 кастрычніка***
*Дзень малітвы за выкладчыкаў, настаўнікаў, выхавацеляў і катэхетаў Беларусі.*

***4 кастрычніка***
*Успамін св. Францішка з Асізі.*

***5 кастрычніка***
*Успамін св. Фаўстыны Кавальскай.*

***7 кастрычніка***
*Успамін НПМ Ружанцовай.*

### Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4". Чарговы выпуск – 4 кастрычніка ў 19.45, паўтор – 5 кастрычніка ў 9.00.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

### Ружанцовыя інтэнцыі

***Кастрычнік***

*Аб плёне дыяцэзіяльных мерапрыемстваў – перэгрынацый, пілігрымак, святкаванняў і душпастырскіх сустрэч.*

*Аб духоўным перажыванні і Божых дарах для іх арганізатараў і ўдзельнікаў.*

**"Адукацыя павінна вучыць чалавечнасці". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XXVI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Лк 16, 19–31**

Езус сказаў фарысеям: “Быў адзін багаты чалавек, які апранаўся ў парфіру і тонкае палатно і кожны дзень цудоўна банкетаваў. А нейкі жабрак, па імені Лазар, ляжаў каля ягонай брамы ў струпах і хацеў насыціцца тым, што падала са стала багацея. Сабакі ж прыходзілі і лізалі струпы ягоныя. Памёр жабрак і ўзнесены быў анёламі на ўлонне Абрагама. Памёр і багаты і быў пахаваны. У пекле, будучы ў пакутах, ён узняў вочы свае, убачыў здалёк Абрагама і Лазара на ўлонні ягоным. І, усклікнуўшы, сказаў: «Ойча Абрагаме, злітуйся нада мною і пашлі Лазара, каб памачыў канец пальца свайго ў ваду і ахаладзіў язык мой, бо я пакутую ў полымі гэтым». Але Абрагам сказаў: «Дзіця, успомні, што ты атрымаў ужо свае дабро ў жыцці сваім, падобным чынам і Лазар – ліха. Цяпер жа ён тут суцяшаецца, а ты пакутуеш». [...] Тады сказаў ён: «Дык прашу цябе, ойча, пашлі яго ў дом бацькі майго, бо ў мяне пяць братоў. Няхай засведчыць ім, каб і яны не прыйшлі ў гэтае месца пакуты». [...] Абрагам адказаў: «Калі Майсея і пракокаў не слухаюцца, то, калі хто і ўваскрэсне з мёртвых, не паверацъ»”.

### МІЛАСЭРНАСЦЬ – КРЫНІЦА ЎБОГІХ

Багач – гэта той, хто мае зацененае эгаізмам сумленне, ахопленае пагоняй за прыемнасцямі сэрца, абцяжараную зямнымі дабротамі душу, аглушаныя шумам забаў і незаспакоенымі жаданнямі пачуцці. Такі чалавек не заўважае падобных да Лазара: хворых, галодных, пакутуючых, прыніжаных. Ён становіцца бясклапотным і пыхлівым нявольнікам граху, таму не дае сябе захапіць закліку да навяртання, заключанаму ў Божым слове.

“Езус Хрыстус, хоць быў багатым, стаў бедным дзеля вас, каб вы ўзбагаціліся Ягоным убоствам” (2 Кар 8, 9). Ён з’яўляецца тым “эканомам” міласэрнага Бога, які сцёр кантраст паміж багачом і бедным. Збаўца не шкадаваў сіл, здароўя, часу, любові, міласэрнасці і, урэшце, нават жыцця, становячыся падобным і да бедных, і да багатых. Дык чаму толькі тыя грэшнікі і мытнікі раскайваюцца, кажучы: “Я зграшыў. Адплачу ў чатыры разы больш, нават палову сваёй маёмасці аддам”? Сёння і Ты, “багач”, можаш убачыць Лазара і нават пяцярых братоў, якім неабходна Твая “палова маёмасці”, каб стварыць месцы працы ці апрацаваць раны.

**XXVII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**

**Лк 17, 5–10**

Апосталы сказалі Пану: “Дадай нам веры”. Пан сказаў: “Калі б вы мелі веру з гарчычнае зерне, вы маглі б сказаць смакоўніцы гэтай: «вырвіся з карэннем і перасадзіся ў мора», – і яна б паслухалася вас.

Хто з вас, маючы слугу, які арэ або пасвіць, скажа яму, калі ён вернецца з поля: «як прыйдзеш, адразу сядай за стол»? Наадварот, ці не скажа яму: «прыгатуй мне павячэраць і, падперазаўшыся, прыслужвай мне, пакуль буду есці і піць, а пасля будзеш есці і піць ты»? Ці будзе ён дзякаваць слузе гэтаму за тое, што ён выканаў загаданае? І вы таксама, калі выканаеце ўсё загаданае вам, кажыце: «мы нікчэмныя слугі, бо зрабілі тое, што павінны былі зрабіць»”.

### ВЕРА Ў МІЛАСЭРНАСЦЬ

Наша вера прыняла форму міласэрнасці дзякуючы Езусу Хрысту, паколькі гэта і Яго вера. Яна дазваляе прыняць постаць слугі і дапамагае служыць пакорна і аддана. Сёння вера неабходна не для таго, каб перасоўваць горы і перасаджваць дрэвы, але для таго, каб з галавой кінуцца ў акіян любові і міласэрнасці Бога і там пусціць карані. Каб вырываць дрэвы граху з нашых душ, перасоўваць горы рэчаў і тлумы людзей, якія засланяюць аблічча Найвышэйшага Дабра.

Вера – гэта парука той Міласэрнасці, якой мы чакаем. Бог заўсёды ўдзяляе нам сябе, калі мы ствараем у душы ўмовы неба. Апостал Павел прыгадвае, што вера – гэта дэпазіт Дабра, дзякуючы якому мы жывём на зямлі, а пасля – і ў вечнасці. І заахвочвае абаранць гэты Дар, быць слугой-ахоўнікам у веры і любові, а не ў залежнасці, якая заснавана на страху, прымусе, рабалепстве. Адносіны з Богам не маюць характару кантракту. Яны бескарыслівыя. Таму павінна знікнуць ганарыстасць, дух канкурэнцыі і боязі, паколькі сам Езус падперазаўся і кажа нам сядаць за стол, а Ён – “будзе прыслужваць”.

Пане Езу, дадай нам веры ў міласэрнасць Твайго Айца!

*А. Юрый Саковіч OSPPE*



**Слова рэдактара**

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Быць настаўнікам – значыць змяняць свет

*Самым вялікім скарбам кожнага народа з’яўляюцца дзеці і моладзь. “Паколькі чалавек – асноўная і адначасова штодзённая дарога Касцёла, зразумела, што перыяду маладосці ён надае асаблівую ўвагу як ключавому этапу жыцця асобы”, – пісаў св. Ян Павел ІІ у Лісце да моладзі ўсяго свету.*

Першымі выхавацелямі маладых людзей з’яўляюцца бацькі, якіх ніхто і нішто не можа замяніць. Аднак сучасная сям’і неабходна інстытуцыйная дапамога і падтрымка. У гэтым працэсе вельмі важную ролю адыгрываюць школа і настаўнікі. На іх плечы ўскладзена адказная, хоць так часта і недаацэненая паслуга. Забеспячэнне добрай адукацыяй – клопат аб будучыні маладога чалавека і ўсёй краіны. Яна спрыяе належным умовам правільнага развіцця дзяцей і моладзі і дапамагае ў фарміраванні асобы так, каб у дарослым жыцці ніхто не пашкадаваў аб сапсаваных гадах.

Праца ў школе нялёгкая, але прыемная з-за таго, што настаўнікі знаходзяцца поруч з маладым пакаленнем, якому “аддаюць сябе”. Гэтую прафесію выбіраюць па пакліканні. З-за пачуцця прызначэння праца не ўспрымаецца інструментальна. Кожны дзень у школе становіцца цудоўнай прыгодай. Быць настаўнікам – значыць змяняць свет. Навучаючы дзяцей, настаўнікі ўплываюць на тое, якімі людзьмі яны стануць. Праз выхаванне супрацоўнічаюць з імі ў стварэнні сістэмы каштоўнасцей, падказваюць, як перамагаць слабасці, умацоўваюць іх веру ва ўласныя магчымасці.

На пачатку новага навучальнага і катэхетычнага года, а таксама ў пярэдадзень Дня настаўніка хочацца падзякаваць усім работнікам сферы адукацыі – выкладчыкам, настаўнікам і выхавацелям – за тое, што яны з вялікай адданасцю рэалізуюць сваю місію. Адкрываючы спадарожнічаюць ім у сталенні і развіцці, уводзяць у прастору сучасных ведаў і тэхналогій, адначасова абапіраючыся на дасягненні і мудрасць папярэднікаў і пастаянна ўдасканальваючы ўласныя навыкі. Узгадваючы тое дабро, якое кожны з нас атрымаў ад сваіх настаўнікаў, хочацца пажадаць, каб яны і далей былі аўтарытэтамі, якія не толькі словамі, але і прыкладам уласнага жыцця паказваюць, як жыць годна.

**Давайце ахінём сваімі малітвамі ўсіх, хто ўкладвае сэрца ў развіццё і выхаванне новага пакалення. Няхай яны і ў далейшым з адданасцю спадарожнічаюць маладым людзям і будуць сведкамі таго, што выбар адпаведнай іерархіі каштоўнасцей робіць чалавека шчаслівым.**

# УЧЫНАК ДЛЯ ЦЕЛА БЛІЖНЯГА. ПРЫНЯЦЬ У ДОМ ПАДАРОЖНЫХ




Напэўна, кожнаму хоць аднойчы даводзілася пакінуць свой дом і адправіцца ў падарожжа. Гэта магла быць турыстычная або дзелавая паездка, пілігрымка або проста спантанны візіт у іншую мясцовасць. І як жа прыемна сустрэць на шляху добрых, гасцінных людзей з адкрытым сэрцам! Дзякуючы ім, адчуваеш сябе жаданым госцем у любым месцы.

Аб падарожных сёння можна гаварыць у шырокім маштабе. У грамадстве вострa стаіць праблема міграцыі насельніцтва. Паводле даных ААН, 3,1% людзей на зямлі (звыш 200 млн.) знаходзяцца “ў дарозе” на тэрыторыі сваёй краіны або за яе межамі. Матывы для гэтага розныя: эканамічна-дэмаграфічныя (беднасць, беспрацоўе, нізкія заробкі, дрэнны ўзровень медыцыны ці адукацыі), палітычныя (вайна, тэрор, карупцыя), сацыяльна-культурныя (дыскрымінацыя, пераслед).

Чаму так важна не закрываць дзверы свайго дома для бліжняга? Відавочна, любое падарожжа звязана з некаторай доляй рызыкі. Залежны ад абставін, чалавек без даху над галавой і прысутнасці блізкіх пачаў можа адчуваць сябе безабаронным. Але, нягледзячы на ўсе магчымыя перашкоды, Бог не пакідае чалавека, а прыходзіць яму на дапамогу праз іншага. Як гаварыў апостал Павел, кожны з’яўляецца “святыняй Бога і Дух Божы жыве ў ім” (1 Кар 3, 16). Справа толькі ў тым, ці дасць асоба “выйсці” нечаму Божаму з душы, ці закрыецца на патрэбы бліжняга, забыўшыся, што створана па вобразе Усемагутнага. Хрысціянін, стараючыся выконваць гэты учынак міласэрнасці, павінен памятаць пра вельмі важнага Госця, які чакае праяўлення любові да Яго. “Хто прымае вас, Мяне прымае. А хто прымае Мяне, прымае таго, хто паслаў Мяне” (Мц 10, 40).

Першы прыклад гасціннасці ў Бібліі дае Абрагам. Убачыўшы тры постаці, якія набліжаліся да яго шатра ў самую спякотную пару дня, ён выйшаў ім насустрач і запрасіў да сябе. Аказалася, што ён прыняў самаго Пана і Яго анёлаў. Бог паабяцаў, што праз год Сара народзіць яму жаданага сына, спаўна аддзячыўшы Абрагаму за адкрытае сэрца.

Месц такое сэрца пакліканы кожны хрысціянін. Аб гэтым нагадвае добрая традыцыя “пустога месца”, якая ўшаноўваецца на Віглію Божага Нараджэння. На святочны стол кладуцца “лішнія” прыборы і талерка, што сімвалізуе гатоўнасць людзей прыняць у дом магчымага госця. Традыцыя прыпамінае: у душы кожнага павінен нанова нарадзіцца Хрыстос. А разам з Ім – і аднаўленае сэрца, адкрытае на міласэрнасць.

Сам Езус не аднойчы быў прыкладам, якога не прынялі (Бэтлеем, дзе не знайшлося месца для Яго нараджэння) або прынялі (пакой у Ерузалеме, дзе адбылася Апошняя Вячэра) гасцінна. І сёння Ён, уваскрослы і праслаўлены, з’яўляецца “падарожным”: шукае людзей, якія адчыняць Яму дзверы. Ён асаблівым чынам прысутнічае ў Эўхарыстыі, цэлебраванай у Касцёле як Божым доме, што дае бяспеку і гарантуе збаўленне. З другога боку, непасрэдна Хрыстос даў чалавеку дасканалы прыклад гасціннасці, калі сцвердзіў: “У доме Айца Майго шмат святліц. А калі б так не было, ці сказаў бы вам, што іду падрыхтаваць месца для вас” (Ян 14, 2). Гэта значыць, што кожнага ў Айцоўскім доме пасля зямной вандроўкі чакае Бог.



Учынак для цела бліжняга мае таксама і духоўнае вымярэнне. “Прыняць падарожных” – значыць пусціць пад дах свайго сэрца заблукалых у жыцці вандроўнікаў. Часамі людзі страчваюць правільны кірунак, веру, сэнс. Таму трэба быць нераўнадушным хрысціянінам, стаць своеасаблівым маяком, які не дасць бліжняму згубіцца на прасторах жыцця. Такая дапамога вельмі каштоўная ў вачах Бога.

**5 прычын здзейсніць учынак міласэрнасці:**

1. *Прынясце ў дом падарожнага з’яўляецца выражэннем хрысціянскай любові і разважлівасці.*
2. *Гасціннасць узмацняе салідарнасць і еднасць паміж людзьмі.*
3. *Робячы дабро бліжняму, чалавек развіваецца і сам сабе дапамагае.*
4. *Асоба, што прыходзіць у “чужы” дом, – гэта Хрыстос, які чакае аказання Яму любові.*
5. *Кожны, хто праяўляе міласэрнасць у адносінах да бліжняга, становіцца сведкам Бога і Яго прыкладай.*



*Кс. Юрый Жэгарын*

*Усе мы крочым да адной мэты – Валадарства Нябеснага. Там наша айчына і пастаянное месца жыхарства. Таму падарожны – гэта кожны чалавек, якому патрэбна дапамога. У больш вузкім разуменні – пілігрым, вандроўнік, той, каго ў дарозе трэба выручыць з начлегам, харчаваннем, цёплым адзеннем, лекамі і інш. Аказаць міласэрнасць для тых падарожных, якія разгубіліся ў жыцці або духоўна аслаблі, намагаецца і Касцёл на Гродзеншчыне. З гэтай мэтай у бліжэйшы час, маю надзею, адкрыюцца рэкалекцыйныя цэнтры і дамы для пілігрымаў у Сапоцкіне, Росі, Навагрудку. Тут людзі на нейкі час змогуць адарвацца ад штодзённых клопатаў і засяродзіцца над сэнсам свайго існавання. Для гэтага зараз ствараюцца ўсе неабходныя духоўныя і бытавыя ўмовы. Дарэчы, любы жадаючы можа прыняць удзел у дабрачыннай справе праз ахвяраванне на будаўніцтва такіх цэнтраў.*

*Ангеліна Пакачайла*

# 10 цікавых фактаў з жыцця старэйшага святара Беларусі

*90-гадовы кс. прэлат Юзаф Трубовіч рыхтуецца адзначыць 60-годдзе прэзбітэрскіх пасвячэнняў. З іх 35 гадоў святар аддана служыць Касцёлу на Гродзеншчыне. З 1977 г. на працягу 11-ці гадоў працаваў у францішканскім касцёле. У 1992–1998 гг. – у катэдры. У той жа час рэгулярна наведваў вязняў у гродзенскай турме. У канцы 1998 г. быў пробашчам у Каменцы. З 1999 г. па сённяшні дзень выконвае святарскія абавязкі ў парафіі Гродна-Паўднёвы.*



*Сустрэча з папам Янам Паўлам ІІ стала незабыўнай падзеяй у жыцці святара*

**А ці ведалі Вы, што кс. Юзаф Трубовіч валодае 9-цю мовамі? А тое, што ён 7 гадоў спаў на дошцы са скрынкай з фанеры пад галавой? Спецыяльна для “Слова Жыцця” святар распавядае некаторыя цікавосткі са свайго жыцця.**

## 1. ЗАЛІЧАНЫ АДРАЗУ НА 2-ГІ КУРС СЕМІНАРЫІ

Для паступлення ў Рыжскую духоўную семінарыю неабходна было скончыць сярэднюю школу. Я спрабаваў туды паступіць штогод, пачынаючы з 9-га класа. А калі скончыў 12 класаў, семінарыю закрылі. Каб не марнаваць часу, я пачаў працаваць у Рызе на фабрыцы серыйнага будаўніцтва шматкватэрных дамоў, затым паступіў у радыётэхнічны тэхнікум. Неўзабаве аднавіла дзейнасць семінарыя. Я зноў спрабаваў залічыцца, на што рэктар параіў спачатку скончыць тэхнікум. Я адказаў: “Баюся, семінарыю зноў зачыняць”. У красавіку 1952 г. мяне прынялі на вучобу адразу на 2-гі курс. Быў вельмі шчаслівы! Семінарыйная фармацыя дала мне асновы і правілы аскетычнага жыцця, пазнанне навукі Езуса Хрыста, якую абвяшчае Касцёл, ацэнку праўды ў параўнанні з іншымі канфесіямі, сектамі і свецкімі ісцінамі, а таксама разуменне Божай праўды “Я ёсць, каторы ёсць”.

## 2. КАЛЯ 20-ЦІ ГАДОЎ СЛУЖЫЎ У ЛАТВІІ

У 1956 г. я скончыў семінарыю і ўжо праз 14 дзён пасля прыняцця святарскага пасвячэння быў неадкладна пасланы ў парафію ў Ліепаю на балтыйскім узбярэжжы Латвіі. На працягу 6-ці гадоў працаваў там разам з генеральным вікарыем кс. Юльянам Вайводсам. Адтуль быў пераведзены ў парафію Курменэ. Там і яшчэ на двух прылеглых пляцоўках служыў на працягу 14-ці гадоў. Дарэчы, у Латвіі католікі складаюць палову жыхароў краіны. Рэшта – лютэране, праваслаўныя і сектанты, пераважна баптысты. Вернікі асаблівым чынам ушаноўваюць Найсвяцейшую Маці, таму гэтую краіну называюць яшчэ “Зямлёй Марыі”. У Аглоне ёсць базіліка, дзе знаходзіцца цудатворны абраз Маці Божай. У 1995 г. латвійскі парламент прыняў пастанаўленне “Аб санктуарыі міжнароднага значэння ў Аглоне”. Штогадова ў жніўні туды прыбываюць пілігрымы з розных мясцін Латвіі і ўсяго свету.

## 3. ПРАЦАВАЎ ПРЭФЕКТАМ СЕМІНАРЫІ Ў РЫЗЕ

У 1988 г. кс. кардынал Юліян Вайводс, які быў маім першым пробашчам непасрэдна пасля пасвячэння, прызначыў мяне на пасаду прэфекта (першапачаткова гэта функцыя называлася “інспектар”) Рыжскай вышэйшай духоўнай семінарыі, дзе я працаваў амаль 4 гады. Нягледзячы на тое, што працы было шмат, выконваць гэтыя абавязкі мне вельмі падабалася. З вялікім задавальненнем і радасцю мы прымалі кандыдатаў. Яны былі вельмі старannымі, паколькі трапіць у семінарыю тады было складана. За час маёй паслугі прэфекта ў семінарыі пасвячэнні там прынялі каля 20-ці хлопцаў з Беларусі. Хрыстовы Касцёл абапіраецца на святароў, якіх я называю “чорныя мурашкі”. У нас ёсць Святы Айцец – галава Касцёла, ёсць біскупы, якія кіруюць мясцовым Касцёлам. Але калі б не было святароў, каго б тады ўзначальвалі і кім кіравалі? Нездарма сам Езус пабуджае верны люд прасіць Нябеснага Айца, каб паслаў работнікаў на вялікае жніво.

## 4. АСАБЛІВЫМ ЧЫНАМ ШАНУЕ МАЦІ БОЖУЮ

Найсвяцейшая Маці нястомна дапамагае сваім дзецям. Я заклікаю Яе з 1954 г., калі ў семінарыі трапіў на Навэнну да Маці Божай Нястомнай Дапамогі. “О, мая Пані, мая Маці, памятай, што я Твой. Ахоўвай мяне і барані як сваю рэч і ўласнасць”. Вялікай падтрымкай з’яўляецца для мяне і Вязень Любові ў табернаклі, аб якім я ніколі не забываюся. І Найсвяцейшая Тройца, якая па-асабліваму прысутнічае ў парафіяльным касцёле ў маёй роднай мясцовасці ў Плюсах *(знаходзіцца на адлегласці 250 км ад Рыгі і 480 км ад Гродна, Віцебская вобласць – заўв. рэд.)*.



*Некалькі тысяч дзяцей прынялі з рук ксяндза Першую св. Камунію*

## 5. ВЁЎ АСКЕТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

Яшчэ будучы вікарыем, а потым і пробашчам, на працягу 13-ці гадоў я спрабаваў не есці мяса. 7 гадоў спаў на дошцы з фанернай скрынкай пад галавой, у якую ўклаў рэліквіі св. Францішка з Асізі. З 1956 па 1991 г. свядома спаў толькі 6 гадзін у суткі замест патрэбных 8-мі. Такім чынам я зэканоміў 3 гады 75 дзён. Не ведаю толькі, як гэта паўплывала на здароўе… У выніку дадаў да свайго жыцця 7 гадоў: на 4 гады скараціўшы час навучання і на 3 – час сну.

## 6. НАПІСАЎ ДЗВЕ КНІГІ

Назіраючы за жыццём чалавека, які губляе паняцце аб сваёй мэце, я напісаў першую кнігу пад назвай “Дарога звычайнага жыцця”. Гэта своеасаблівы род маёй біяграфіі. Другую кнігу напісаў, бо сёння чалавек і свет вельмі часта адыходзяць ад праўды. Нават не шукаюць яе. А гэта ж Бог з’яўляецца Праўдай! Адсюль мая другая кніга – “Чаму аб праўдзе і рэчаіснасці”. Збіраўся напісаць яшчэ адну, але пакуль што гэтаму не спрыяюць абставіны.



*Падчас кожнай Эўхарыстыі святар дзякуе Богу за сваё пакліканне*

## 7. ВЕДАЕ ШМАТ МОЎ

Раней я вывучаў некаторыя замежныя мовы: нямецкую, англійскую і французскую. Але калі зразумеў, што нідзе іх не выкарыстаю (паколькі за мяжу не выпускалі), закінуў усё гэта. Пры мне засталіся толькі польская, руская, беларуская, латвійская, літоўская, часткова лацінская і англійская. У вечнасці, хіба, і гэтыя не спатрэбяцца. Будзе агульная мова зразумення.

## 8. АТРЫМАЎ ТЫТУЛ ПРЭЛАТА

У студзені 1988 г. Святы Айцец Ян Павел ІІ залічыў мяне да сваіх капеланаў. Ніколі не шукаў годнасцей і не дабіваўся гэтага. Ведаю толькі адно: я такі, які ёсць перад Богам.

## 9. ХУТКА АДЗНАЧЫЦЬ 60-ГОДДЗЕ СВЯТАРСКІХ ПАСВЯЧЭННЯЎ

Гэта добрая спадчына. Але той, хто пражыў столькі гадоў, не бачыць тут нічога дзіўнага. Ніколі не думаў пра веліч святарскага шляху. Мяне проста штосьці падштурхоўвала да гэтай паслугі: без маіх разважанняў, нягледзячы на вялікія цяжкасці. Нават часы прыніжэння веры і рэлігіі не стрымлівалі мяне. Імкнуўся да гэтага. Ведаў, кім хачу стаць, яшчэ з дзяцінства, калі быў міністрантам. Ці абраў бы іншы жыццёвы шлях? Мой адказ адназначны: гэтую дарогу я ніколі б не хацеў не толькі памяняць, але і страціць.

## 10. НІ АБ ЧЫМ НЕ ШКАДУЕ

У сур’ёзных рэчах мне няма аб чым шкадаваць. Я заўсёды баяўся граху, нават самага маленькага. А ў жыццёвых справах спрабаваў выправіць тое, што было магчыма. Усюды трэба бачыць Божую волю, бо так і ёсць. Ніколі не сумняваўся, што Пан усім кіруе. Няраз праз чалавека ў справу ўмешваецца д’ябал, аднак вынік усё ж будзе такім, якога хоча Бог.

“Праслаўляючы Пана Бога, Адзінага ў Тройцы, за ўсе атрыманыя ласкі, 1 кастрычніка ў 12.00 у катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя ў Гродне я складу Ахвяру ўдзячнасці за 60 гадоў святарскай паслугі. У гэты ж дзень узначалю Эўхарыстыю ў 19.00 у гродзенскім касцёле Беззаганнага Зачацця НПМ, дзе служу на працягу апошніх 16-ці гадоў.

Сардэчна запрашаю ўсіх, каго на працягу свайго святарскага жыцця хрысціў, рыхтаваў да першай споведзі і святой Камуніі, сакраманту канфірмацыі, каму спадарожнічаў пры заключэнні сакраментальнага сужэнскага саюза, а таксама тых, з кім супольна праслаўлялі і надалей праслаўляем Пана Бога Трыадзінага”.

***Кс. Юрый Марціновіч і Ангеліна Пакачайла***

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Каб быць прыладамі міласэрнасці, мы пакліканы вучыцца ад Хрыста, што значыць жыць ёю. Гэта азначае адчуваць у ёй патрэбу. А ўсведамляючы неабходнасць прабачэння, суцяшэння, міласэрнасці Езуса, мы вучымся быць міласэрнымі да іншых. Калі накіроўваем свой позірк на Божага Сына, разумеем, якую доўгую дарогу нам яшчэ трэба прайсці. Але адначасова гэта абуджае радасць, таму што мы ведаем, што ідзём з Ім і ніколі не застаёмся ў адзіноце.*

*Хтосьці скажа: “Але, Ойча, я грэшнік, я грэшніца. Як я магу справіцца?”. Дазволь, каб Пан паглядзеў на цябе, адкрый сваё сэрца, адчуй Яго позірк, Яго міласэрнасць, і тваё сэрца напоўніцца радасцю прабачэння, калі наблізішся прасіць, каб цябе прабачылі.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас агульнай аўдыенцыі на плошчы св. Пятра, 14.09.2016*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*У крыжы Езуса Хрыста да нас прыходзіць любоў Бога – бясконцая, як Ён сам. Гэта збаўчая, ацаляючая ласка, якая перамяняе нас знутры.*

*У таямніцы крыжа Пан Езус пазірае на нас з любоўю і ўлівае ў нашыя сэрцы суцяшаючую ўпэўненасць, што нават у самых вялікіх цярпеннях, у найскладанейшых выпрабаваннях, у самым балючым досведзе мы ніколі не адзінокія. З намі Божы Сын, які так палюбіў людзей, што стаў да нас падобны ва ўсім, акрамя граху. У гэтым прыпадабненні да чалавека Ён прыняў на сябе безліч людскіх пакут, у тым ліку і смерць, прычым смерць на крыжы.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасці Узвышэння Святога Крыжа*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Адзін настаўнік распавядае аб тым, як папрасіў вучняў напісаць дзесяць найбольш важных у іх жыцці спраў. Калі яны зрабілі гэта, ён папрасіў выкрэсліць тры апошнія. Засталося сем. Пасля – ізноў выкрэсліць тры апошнія. Засталося чатыры. Тое ж паўтарылася яшчэ раз. У выніку засталася адна справа. Якая?*

*Аказалася, што вучні засяродзіліся на трох тэмах: сям’я, жыццё і Бог. Вось, што мела самае вялікае значэнне ў іх жыцці. Нягледзячы на секулярныя тэндэнцыі нашага часу, моладзь усё ж выбірае фундаментальныя каштоўнасці, сярод якіх – Бог.*

*Трэба памятаць, што Пан не імкнецца да канкурэнцыі адносна любові да членаў нашай сям’і. Ён толькі хоча сказаць, што любоў да Яго павінна быць на першым месцы. Ставячы Бога на чале, мы можам быць упэўнены, што сапраўды любім нашых братоў і сясцёр Божай любоўю і супрацоўнічаем з ёю.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас першай св. Імшы Апостальскага нунцыя аб-па Габара Пінтэра*




◆ *Папа Францішак удзяліў сакрамант канфірмацыі цяжка хвораму 16-гадоваму юнаку Джузэпэ Кьёла. Цырымонія прайшла пасля агульнай аўдыенцыі, якую Пантыфік праводзіў на галоўнай ватыканскай плошчы ў межах Юбілею міласэрнасці. Падзея стала магчымай пасля таго, як хлопец напісаў ліст да Святога Айца, у якім распавёў пра сваё жаданне сустрэцца з ім. Пасля ўдзялення сакраманту Папа падарыў Джузэпэ ружанец і папрасіў не забываць маліцца за яго.*

◆ *Былы дзяржсакратар Апостальскай Сталіцы кард. Тарчызіа Бертонэ ў лацінскай катэдры ў Львове ўзначаліў урачыстасці з нагоды 25-годдзя аднаўлення структур каталіцкага Касцёла ва Украіне. Кардынал выразіў удзячнасць святарам, манахам і манахіням, а таксама сем'ям, якія перадалі веру дзецям і ўнукам. Пасля ўрачыстай св. Імшы ў межах святкавання юбілею кард. Бертонэ асвяціў адкрыты ў Бжухавіцах каля Львова Дом апекі св. Зыгмунта Гараздоўскага, у якім будуць клапаціцца аб пажылых і хворых людзях, а таксама святарах на пенсіі.*

◆ *У Расіі назіраецца раптоўны рост зацікаўленасці пілігрымкамі і рэлігійным турызмам. Аб гэтым паведаміла віцэ-міністр культуры Расійскай Федэрацыі Ала Манілава. Яна сцвярджае, што расійскія ўлады павінны адказаць на гэтую з'яву, прапануючы адпаведныя формы рэалізацыі пілігрымак у месцы рэлігійнага культу і да помнікаў духоўнай гісторыі краіны. З гэтай мэтай у Міністэрстве культуры была сазвана спецыяльная рабочая група.*

◆ *Каталіцкія СМІ інфармуюць, што колькасць святарскіх пасвячэнняў у Германіі памяншаецца з неймавернай хуткасцю. Калі ў 1965 годзе іх было 500, у 2005 годзе – 122, то за 10 гадоў гэтая лічба паменшылася яшчэ двойчы. У бягучым годзе пасвячэнне прынялі толькі 58 мужчын. Нямецкі епіскапат спрабуе адказаць на крызіс стварэннем большых парафій. У паслузе ўсё часцей дапамагаюць святары з-за мяжы. У гэтых адносінах рэкорд належыць дыяцэзіі Ротэнбург-Штутгарт, дзе ажно 30% святароў прыехалі з іншых краін.*

◆ *У пачатку верасня ў Мадрыдзе (Іспанія) памёр заснавальнік і дзеяч pro-life арганізацыі Рафаэль Лазана. Дзякуючы яму быў створаны прытулак "Red Madre", дапамогай якога скарысталіся 40 тыс. цяжарных і адзінокіх жанчын, страціўшых надзею. З 2005 года Лазана арганізоўваў шматлікія маніфесты pro-life на вуліцах іспанскіх гарадоў. Быў каардынатарам Цэнтра сямейнай фармацыі ім. Яна Паўла ІІ. Меў шасцярых дзяцей. "Рафаэль годна абараняў свае ідэі, але нікому не навязваў асабістых поглядаў", – успамінае яго паслядоўнік Зянон.*

*credo-ua.org; pch24.pl; ekai.pl; be.radiovaticana.val*

***Ангеліна Пакачайла***

# Пакліканыя да няспыннага развіцця

● *працяг са с. 1*


*На сустрэчах падымаюцца важныя актуальныя пытанні*

## ПА ПРЫКЛАДЗЕ ЧЫГУНАЧНІКАЎ

Душпастырства выкладчыкаў, настаўнікаў і выхавацеляў г. Гродна ўзнікла ў 2001 годзе па ініцыятыве спадарыні Людмілы Гапонік і а.д-ра Андрэя Шчупала CSsR. "У той час у горадзе актыўна дзейнічала душпастырства чыгуначнікаў, – успамінае Людміла Гапонік. – Мне захацелася стварыць нешта падобнае і для настаўнікаў. У жніўні 2001 года мы з сям'ёй адпачывалі ў Парэччы, дзе я пазнаёмілася з а. Андрэем Шчупалам. Прапанавала яму падтрымаць гэтую ідэю. Айцец згадзіўся".

У кастрычніку адбылася першая сустрэча душпастырства. Біскуп Аляксандр Кашкевіч блаславіў яго на сумесныя спатканні ў пабрыгіцкім касцёле пад кіраўніцтвам а. Андрэя Шчупала. "Спярша гэта былі мае знаёмыя і калегі, – гаворыць Людміла. – Мы прагнулі, каб выкладчыкі, настаўнікі, выхавацелі маглі збірацца разам, маліцца Богу, дзяліцца сваімі праблемамі і вопытам, дапамагаць адзін аднаму, падарожнічаць. На маю думку, з часам у нас усё атрымалася".

З 2004 года душпастырам супольнасці з'яўляецца кс. Антоній Грэмза. У яе склад уваходзяць каля 40-а членаў, якія рэгулярна ўдзельнічаюць у сустрэчах. Сярод іх людзі рознага ўзросту: тыя, хто працуюць, і хто знаходзіцца на заслужаным адпачынку. Пераважная большасць – старэйшыя ўдзельнікі. Маючы дачыненне да душпастырства, яны не "выпадаюць" з прафесіі: у супольнасці з задавальненнем дзеляцца вопытам, адчуваючы сябе патрэбнымі. "Маючы 40 гадоў працоўнага стажу, нікому не навязваю свае меркаванні, – сцвярджае Зоф'я Шчыглінская. – Але калі да мяне звяртаюцца, ахвотна нешта падказваю. Душпастырства – гэта мая аддушына. З радасцю сустракаюся тут са сваімі сябрамі. Разам штосьці ўспамінаем, дзелімся планамі на будучае".

Душпастырства з'яўляецца не толькі т. зв. "клубам па інтарэсах". "Перш за ўсё, гэта хрысціянская фармацыя, – зазначае душпастыр кс. Антоній Грэмза. – Сёння існуе шмат поглядаў на тое, як правільна выхоўваць дзяцей і моладзь. Адносна дадзенай праблемы сваё бачанне мае і Касцёл. Таму і самі настаўнікі і выхавацелі маюць патрэбу ў адукацыі, няспыннай духоўнай фармацыі. Ім проста неабходна быць на адной хвалі з рэчаіснасцю: даведвацца пра нешта новае, каб выкарыстоўваць гэта ў сваім далейшым жыцці і прафесіі. Акрамя ўсяго, удзельнікі супольнасці збіраюцца разам, каб падзякаваць Богу за пакліканне і ў каторы раз нагадаць сабе вялікую адказнасць асабістага служэння".

## У ПОШУКАХ ІСЦІНЫ

Члены душпастырства збіраюцца на супольную св. Імшу, пасля – на сустрэчу. На спатканні жадаючыя рыхтуюць рэфераты, даклады, пасля якіх адбываюцца дыскусіі. Удзельнікаў супольнасці хвалююць такія тэмы, як, напрыклад, гендэрная ідэалогія, этычнае і сексуальнае выхаванне маладых людзей, агрэсія ў школе, інтэрнэт як прастора без межаў, аўтарытэт настаўніка, супрацоўніцтва з бацькамі. Часамі ладзіцца прагляд кінафільмаў з наступным абмеркаваннем.

Душпастыр мае надзею, што ў далейшым сустрэчы будуць праходзіць часцей: 2 разы на месяц. "Хацелася б мець спатканні ў фармаце хрысціянскага форуму настаўнікаў, – зазначае кс. Антоній. – А яшчэ мы плануем арганізацыю канферэнцый і лекцый у парафіях, дзе члены душпастырства змаглі б дзяліцца сваім досведам з іншымі".

Удзельнікі душпастырства па традыцыі імкнуцца супольна перажываць час Адвэнту і Вялікага посту: актыўна ўдзельнічаюць у рэкалекцыях і днях засяроджання. Разам святкуюць урачыстасці Божага Нараджэння, Вялікадня. Маюць сумесны адпачынак: выязджаюць у падарожжы, пілігрымкі (пілігрымка ў Навумавічы да месца мучаніцкай смерці жыхароў Гродна і Ліпска – адна з ініцыятыў душпастырства). "Дзякуючы душпастыру, мы пабывалі ў шматлікіх святых месцах: Чанстахове, Браславе, на Палессі, – распавядае Люцына Вішнявецкая. – На жаль, нашае пакаленне зведала часы, калі цяжка было падняць руку, каб перахрысціцца. Духоўнае развіццё спынілася на тым, што заклалі ў свядомасць бацькі. У душпастырстве мы паглыбляем сваю веру, узмацняемся малітвай, без якой мы проста бяссільныя... Можа, не мы, дык маладыя, спадзяюся, дажывуць да тых часоў, калі ўрок будзе распачынацца з малітвы. Бо веды – гэта важна, але найважней – вырасці добрым чалавекам".


*Члены душпастырства заўсёды гатовыя падставіць адзін аднаму плячо*

## ПАДТРЫМЛІВАЮЧЫ АДЗІН АДНАГО

У 2013 годзе члены душпастырства выязджалі па запрашэнні ў Чанстахову (Польшча) на агульнапольскую сустрэчу настаўнікаў, дзе прысутнічалі як ганаровыя госці. Спатканне мела свой плён: удзельнікі ўбачылі добрыя прыклады таго, як развіваюцца душпастырствы настаўнікаў за мяжой, адзначылі, у якіх накірунках неабходна рухацца, каб дзейнічаць эфектыўна. "Часта свет настаўнікаў абмяжоўваецца школьнай дошкай, – сцвярджае Уладзімір Ляўшук. – Яны жывуць на працы нават больш, чым дома. А свет шырокі... Варта змяняць атмасферу і адкрывацца на нешта новае".

У мінулую суботу завяршылася VI Дыяцэзіяльная сустрэча выкладчыкаў, настаўнікаў і выхавацеляў. На яе штогод збіраюцца спецыялісты з усёй Гродзенскай дыяцэзіі (як правіла, даязджаюць групамі з розных парафій). "У гэтым годзе сустрэча прайшла ў Воранаве, дзе знаходзіцца санктуарый Божай міласэрнасці, – распавядае кс. Антоній. – Удзельнікі разважалі над практычным аспектам міласэрнасці ў сваёй прафесійнай дзейнасці". Раней дыяцэзіяльныя сустрэчы ладзіліся ў Тракелях, Росі, Лідзе. "Часта настаўнік-католік з'яўляецца белай варонай, – заўважае Уладзімір Ляўшук. – З-за таго, што адчуваеш сябе адзінокім, могуць апускацца рукі. Сустрэчы паказваюць – нас шмат. Тут людзі знаходзяць падтрымку, вучацца нечаму адзін у аднаго".

Дыяцэзіяльныя сустрэчы – своеасаблівая духоўная інтэграцыя. "Дзякуючы ім людзі адчуваюць еднасць паміж сабою, наладжваюць адносіны, дзеляцца сваімі перажываннямі, заручаюцца ўзаемнай падтрымкай", – адзначае кс. Антоній.


*Сумесныя спатканні натхняюць і дадаюць сіл*

## КАБ ПОТЫМ АДКАЗАЦЬ ПЕРАД БОГАМ

Душпастыр заўважае, што хацелася б больш зацікаўленасці з боку ўдзельнікаў супольнасці. Важна разумець, як яны самі ўяўляюць развіццё душпастырства і што могуць для гэтага прапанаваць. "Каму Бог даў больш, з таго больш і патрабаваць будзе, – сцвярджае кс. Антоній. – Пакліканне адукаваць абавязвае працаўнікоў да няспыннага развіцця. Яны павінны дзяліцца добрымі каштоўнасцямі з маладым пакаленнем, што самае галоўнае ў іх прафесіі. А каб гэта рабіць, трэба мець добрую хрысціянскую базу". Для гэтага і існуе душпастырства.

"Настаўніку трэба памятаць, што ён таксама вучань, – гаворыць Уладзімір Ляўшук. – Галоўны Настаўнік – у Нябесным Валадарстве. Мы не вучым маладых людзей, мы вучым іх вучыцца. Даём ясны арыенцір – на Хрыста. Калі Ён ёсць, менш часу будзе марнавацца на глупствы. Разам молімся за сваіх вучняў, дапамагаючы ім знайсці сапраўдны сэнс жыцця".

***Ангеліна Пакачайла***

*Сустрэчы душпастырства выкладчыкаў, настаўнікаў і выхавацеляў адбываюцца ў кожную другую нядзелю месяца. Спатканне распачынаецца св. Імшой у пабрыгіцкім касцёле ў 16.00. Пасля яе ў залах пад касцёлам праходзіць сустрэча з душпастырам і ўдзельнікамі.*

***Далучайцеся!***

# З Марыяй у новы навучальны год




● працяг са с. 1

Кожны з пілігрымаў нёс да трона Маці Божай свае інтэнцыі, бо толькі тады паломніцтва мае сэнс.

**“Я ўжо не першы раз прымаю ўдзел у пілігрымцы. Яна дапамагае даверыцца Богу і атрымаць Яго падтрымку. Кожны год іду з той самай інтэнцыяй: дасягнуць яшчэ большых поспехаў у вучобе. На гэты раз адчула асаблівы духоўны ўздым. Хацелася папрасіць чагосьці вартага не толькі для сябе, але і для таго, хто сапраўды мае ў гэтым патрэбу. Дзякавала Богу за штодзённую прысутнасць у маім жыцці. Мела шмат думак наконт таго, што хачу сказаць і даверыць апецы Маці Божай”.**
***Марыя Углік****, студэнтка 2-га курса ГрДУ ім. Янкі Купалы*




*Для многіх маладых людзей пілігрымка стала традыцыйнай*

На Узгорку надзеі пілігрымаў прывітаў кусташ санктуарыя кс. Міхал Ластоўскі, які разам з парафіянамі штогод гасцінна адчыняе дзверы святыні і дома пілігрыма.

Урачыстую св. Імшу цэлебраваў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. У гаміліі кс. Юрый Марціновіч нагадаў, што Паўсюдны Касцёл перажывае Юбілейны год міласэрнасці, і заахвоціў прысутных да здзяйснення ўчынкаў міласэрнасці. “Ніхто не можа навучыцца дабрачыннасці за кароткі час, так як нельга за дзень навучыцца граць на піяніна ці лятаць на самалёце. Патрэбны час і добрыя настаўнікі”, – дадаў кс. Юрый. І падкрэсліў, што важна быць спартыўным, музыкальным, ведаць матэматыку, фізіку і іншыя прадметы, але “вызначальным з'яўляецца ўменне слухаць голас сваёй душы, бачыць, што хтосьці патрабуе дапамогі. Бог глядзіць на тое, як чалавек выкарыстоўвае дадзеныя таленты, але, у першую чаргу, глядзіць на яго сэрца”.

**“Я ішоў у пілігрымку з адкрытай душой, бо вырушыў на сустрэчу з Богам і Найсвяцейшай Маці, якіх вельмі люблю. Нягледзячы на тое, што мне няшмат гадоў, адно ведаю дакладна: усё, што мы маем – гэта Божы дар. Таму ў пачатку навучальнага года варта стаць на калені і з верай у сэрцы схіліць галаву на бласлаўленне. У санктуарыі я маліўся за сваіх родных і блізкіх, што наблізіла мяне да Бога. Хачу навучыцца яшчэ болей любіць Усемагутнага, праз міласэрнасць адкрывацца на ўсіх людзей, якіх буду сустракаць у школе, дома, на вуліцы”.**
***Віктар Дзюрдзь****, вучань 5 класа сярэдняй школы №40 г. Гродна*



*Удзельнікі паломніцтва атрымалі біскупскае бласлаўленне*

На заканчэнне св. Імшы былі асвечаны заплечнікі і школьныя прылады, якія дзеці і моладзь прынеслі з сабою ў пілігрымцы. Звяртаючыся да маладых людзей, гродзенскі ардынарый падкрэсліў, што яны – надзея вернікаў. “Ужо сёння ад вас залежыць, якім будзе наш гродзенскі Касцёл у недалёкай будучыні. Таму старайцеся не толькі працаваць і пільна здабываць веды ў школе ці іншых навучальных установах, але пазнаваць Пана Бога на занятках рэлігіі, паглыбляць сваю веру, малітву і любоў да Яго”, – сказаў іерарх. Біскуп таксама заклікаў дзяцей і моладзь браць толькі добры прыклад ад іншых, перадусім, ад сваіх бацькоў і настаўнікаў.

Ардынарый выказаў словы ўдзячнасці ўсім святарам, дыяканам, манаскім сёстрам і свецкім катэхетам: “Дзякую за тое, што стараецеся перадаць дзецям і моладзі не толькі веды, але і вялікія духоўныя каштоўнасці, якія будуць для іх важным арыенцірам у жыцці”. І бласлаўвіў удзельнікаў пілігрымкі на ўсе ініцыятывы, якія чакаюць іх у бягучым годзе.

**“Нам вельмі патрэбна дапамога Маці Божай, Яе прысутнасць ва ўсіх нашых пачынаннях. Тут, на Узгорку надзеі, я чэрпаю сілы, у вышэйшай ступені адчуваю Яе дотык і разумею, што Марыя – крыніца сіл, якая ўвесь час мяне падтрымлівае. У пілігрымцы здзяйсняецца сапраўдны цуд: мы ідзём адзінай сям'ёй, супольна молімся, дзякуем за атрыманыя ласкі, просім аб дапамозе ў вучобе і працы, усхваляем Бога спевамі. Разам крочым ва ўзлюблены санктуарый, дзе заўсёды так гасцінна, утульна, цёпла, дзе, як у бацькоўскім доме, можна адпачыць і душой, і сэрцам. Шчыра і глыбока давяраемся нашай Нябеснай Маці. Бо гэта і ёсць самая надзейная гарантыя добрай вучобы і плённай працы”.**
***Алена Садоўская****, загадчык кафедры беларускага і супастаўляльнага мовазнаўства ГрДУ ім. Янкі Купалы, выкладчык Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне*

Пасля св. Імшы адбылася другая частка сустрэчы – прэзентацыя парафіяльных груп, што прыбылі ў санктуарый. Вясёлай забавай сталі інтэграцыйныя танцы. Стварэнню радаснай атмасферы спрыяла моладзь з душпастырства “OPEN”, якая суправаджала сустрэчу акампанементам і спевам.



*Духавенства запэўніла моладзь, што ўсё ў іх яшчэ наперадзе*

У гэты дзень ніхто не пакінуў санктуарый галодным фізічна і духоўна. Гасцінныя гаспадары прыгатавалі для ўдзельнікаў смачную ежу, дзякуючы чаму пілігрымы змаглі аднавіць свае сілы. А сакрамант Эўхарыстыі адкрыў прысутных на Божыя ласкі, тым самым узбагаціўшы “спрагнёныя” душы.

***Ангеліна Марцішэўская***




## Малітва за настаўнікаў і выхавацеляў

**Ойча Нябесны, які не пусціў чалавека аднаго на гэтую даліну плачу, але даў яму Анёла-апекуна і даручыў бацькам, выхавацелям і настаўнікам; які паслаў у свет свайго Сына, каб Ён навучыў людзей, у што верыць і што рабіць, каб быць збаўленымі. Акажы, о Божа, асаблівую міласэрнасць выхавацелям і настаўнікам. Дай ім добрае здароўе і доўгае жыццё, дазволь, каб павучанні, якія яны засейваюць у сэрцы дзяцей і моладзі, прынасілі шчодры плён. Запалі сэрцы выхаванцаў і вучняў, каб былі паслухмянымі і не засмучалі іх дрэннымі ўчынкамі, а менавіта непаслухмянасцю і лянотай. Учыні, добры Божа, каб пасля смерці яны дасягнулі Твайго Валадарства праз заслугі Езуса Хрыста, Пана нашага.** *Амэн.*




Catholic.by

### *У Партугаліі рыхтуюць мюзікл пра Маці Тэрэзу*

***Музычны спектакль з'явіцца на афішах тэатраў у кастрычніку бягучага года пад назвай “Калькута”.***

*Над ім працуе Матыльдзі Тракада, аўтар мюзікла пра Яна Паўла II “Вайтыла”, які заваяваў сімпатыі партугальцаў у сезоне 2010–2011. “Праца над спектаклем невыпадковая: я хацела спалучыць гэта з нядаўняй кананізацыяй Маці Тэрэзы”, – адзначыла Тракада.*

*У мюзікле пра святую з Калькуты ролі сыграюць маладыя акцёры-аматары з Сацыяльнага цэнтра партугальскага Эшторыла, якія ўдзельнічаюць у гэтым праекце бескарысліва. “Мы лічым, што, дзякуючы іх удзелу, мюзікл атрымае поспех і прынясе фінансавыя сродкі, якія будуць накіраваны на карысць бедных”, – адзначыла аўтар ідэі.*




### *Стартаваў праект “Папа для Украіны”*

***У Нядзелю Божай міласэрнасці папа Францішак распачаў збор грошай у падтрымку закранутых вайной жыхароў Украіны.***

*Згодна з воляй Святога Айца, неабходна адказаць на асноўныя патрэбы пацярпелых, звязаныя з харчаваннем і медыцынскай апекай. Тым, хто страціў дах над галавой, трэба дапамагчы знайсці і аплаціць часовае жыллё.*

*На заклік Папы адказала мноства супольнасцей па ўсёй Еўропе. На дадзены момант у межах акцыі сабрана ўжо каля 8 млн. еўра.*

*У Запарожжы распачаў дзейнасць камітэт, які разглядае праекты гуманітарнай дапамогі. Там прысутнічае і прадстаўнік таварыства “Карытас Інтэрнацыянальны”, які прыбыў з Рыма.*

CatholicNews.by

### *Каталіцкі трактат XVIII ст. знайшлі ў макулатуры*

***Разам з рэдкім падручнікам тэалогіі беларускага пісьменніка-бернардзінца ў смецце адправілі і іншыя старадаўнія кнігі.***

*Унікальныя фаліянты заўважылі валанцёры, якія сартуюць макулатуру з зялёных кантэйнераў, усталяваных на вуліцах. Самая каштоўная са знойдзеных кніг – падручнік Францішка Прылуцкага на латыні пад назвай “Compendium Theologiae Moralis” 1765 года (выдадзены ў Вільні ў друкарні айцоў піяраў). Кніга каштоўная не толькі з-за ўзросту: на яе старонках ёсць запісы, па якіх высветлілі, што падручнік належаў касцёлу Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Будславе. У макулатуры быў знойдзены таксама “Псалтыр” 1888 года.*

***Кінга Красіцкая***

## Сустрэча ўдзельнікаў пілігрымкі Гродна-Навагрудак адбылася ў пабрыгіцкім касцёле

*Пілігрымы ўзгадалі шлях да сясцёр-мучаніц, падзяліліся перажываннямі і распавялі аб атрыманых ласках.*

Сустрэча распачалася св. Імшой, якую ўзначаліў духоўны кіраўнік паломніцтва кс. Віталій Сідорка. Святар звярнуў увагу прысутных на тое, што шлях да збаўлення – гэта не толькі перажыванне пілігрымкі і атрыманыя пасля яе ласкі, але і штодзённая прысутнасць Бога ў жыцці. “Паломніцтва вучыць маліцца адзін за аднаго; варта ўвесці гэтую практыку ў сваю паўсядзённасць”, – адзначыў святар.

Пасля набажэнства вернікі накіраваліся ў дом сясцёр-назарэтанак, дзе прынялі ўдзел у праглядзе фотаздымкаў з паломніцтва ў Навагрудак і забаўляльнай праграме.



## Дыяканскія пасвячэнні адбыліся ў Гудагаі

*12 верасня ў санктуарыі Маці Божай Шкаплернай брат Генрых Валейка ад Збаўчай Крыві Хрыста склаў вечныя манаскія абяцанні, а на наступны дзень атрымаў тут дыяканскае пасвячэнне.*

Падчас урачыстай св. Імшы яго ўдзяліў ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч. У гаміліі іерарх прыгадаў абавязкі, якія вынікаюць з пасвячэння ў дыяканы, і звярнуў увагу на тое, што дыяканская паслуга павінна быць службай. „Сёння я гляджу на цябе, дарагі брат, з вялікай надзеяй, што ты будзеш верным і святым сынам свайго манаскага ордэна і ўсяго нашага Касцёла, будзеш непахісным і мужным сведкам Езуса Хрыста, нягледзячы на спакусы і цяжкасці”, – сказаў біскуп Кашкевіч.

На заканчэнне ўрачыстасці дыякан Генрых дзякаваў Пану Богу за дар паклікання, сваім блізкім – за хрысціянскае выхаванне, а таксама прасіў прысутных аб малітоўнай падтрымцы.



## Удзельнікі СДМ 2016 сустрэліся ў Гродне

*Спатканне распачалося св. Імшой у гродзенскім пабрыгіцкім касцёле. Набажэнства ўзначаліў душпастыр моладзі кс. Антоній Грэмза.*

Падчас св. Імшы святар адзначыў: “У Бога нічога не адбываецца выпадкова. Кожны, хто ў гэтым годзе паехаў у Кракаў на СДМ, павінен быў там быць і, безумоўна, вынес для сябе нешта важнае”.

Пасля супольнай малітвы моладзь накіравалася ў дом сясцёр-назарэтанак, каб прагледзець відэа і фотаздымкі з кракаўскіх Дзён моладзі і ўспомніць найбольш прыемныя моманты, праведзеныя разам. У чарговы раз маладыя вернікі звярнуліся да найбольш важных выказванняў папы Францішка, якія пачулі падчас сустрэчы. Узгадалі словы пра тое, што моладзь павінна быць актыўнай, весці насычанае жыццё, але, разам з тым, не забываць, што часам бурная весялосць павінна саступаць месца цішыні.



## Кс. прэлат Вінцэнт Лісоўскі адзначыў 35-годдзе святарскага служэння

*З гэтай нагоды ў лідскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі адбылася ўрачыстая св. Імша.*

Падчас яе кс. Вінцэнт асаблівым чынам маліўся за тых, хто спрыяў яго прыходу да алтара Пана, за выхавацеляў і святароў, дзякуючы якім рэалізавалася пакліканне, а таксама за тых, хто і сёння суправаджае яго на святарскім шляху. Як адзначыў сам юбіляр, на працягу ўсіх гадоў паслугі ён асаблівым чынам адчуваў заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі, якой таксама падзякаваў за сваё служэнне.

Дарэчы, шлях да святарства ксяндза прэлата быў нялёгкім. Вучыўся ён у падпольнай семінарыі ў кс. інфулата Вацлава Пянткоўскага ў Мядзведзічах, з якой выйшлі і два беларускія біскупы – Антоній Дзям'янка і Казімір Велікаселец. Святарскія пасвячэнні прыняў 13 верасня 1981 г. у Літве з рук біскупа Юліяна Стэфановіча.



## Парафіяльнае свята адбылося ў гродзенскім касцёле Адшукання Святога Крыжа

*У дзень адпусту святыню наведалі шматлікія вернікі Гродна, якія прыйшлі, каб ушанаваць дрэва крыжа, стаць перад ім, як Маці Божая Балесная і святы Ян, ачысціць свае сэрцы ад шуму, мітусні і штодзённых спраў.*

Урачыстую св. Імшу ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. “Дзякуючы смерці Хрыста, крыж перастаў быць сімвалам нянавісці, гвалту, жорсткасці і пагарды да чалавека, – адзначыў у гаміліі біскуп Кашкевіч. – З моманту смерці Езуса мы глядзім на яго як на знак найбольшай любові, прабачэння, міласэрнасці і прымірэння. Крыж стаў знакам надзеі, сімвалам перамогі, пасланнем збаўлення і вечнага шчасця”.

Падчас св. Імшы дзве манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта – с. Галіна Занеўская і с. Ірэмія Кулікоўская – дзякавалі Пану Богу за 25 гадоў манаскага жыцця. Гродзенская парафія Адшукання Святога Крыжа была тым месцам, дзе яны распачалі сваю манаскую фармацыю.



## У Астраўцы прайшлі парафіяльныя місіі

*Кожны з пяці дзён рэкалекцый-практыкаванняў быў прысвечаны пэўнай тэме. У рамках місій былі навукі для жанчын, мужчын, а таксама для сем'яў з аднаўленнем сужэнскіх абяцанняў.*

Парафіяльныя місіі праводзяцца з мэтай ачысціць чалавека, узмацніць яго веру ў Бога і наблізіць да духоўнага ідэалу праз разважанні, споведзь і парады святароў. Вераснёўскія місіі ў астравецкай парафіі былі адметныя і тым, што праводзіў іх кс. Аляксей Раманчук з Барысава. Яго набажэнствы і казанні былі блізкімі і зразумелымі для кожнага, хто заходзіў у гэтыя дні ў касцёл Узвышэння Святога Крыжа.

На заканчэнне Святых місій паблізу касцёла быў устаноўлены і асвечаны магутны драўляны крыж як напамін вернікам аб засвоеных навуках і даверу Богу.



## Адрэстаўравана капліца-пахавальня Альбрэхта Заборскага

*Помнік архітэктуры XIX ст., што знаходзіцца на старых хрысціянскіх могілках у Навагрудку, быў адноўлены дзякуючы намаганням пробашча парафіі св. Міхала Арханёла кс. Юрыя Жэгарына і мясцовых вернікаў.*

З нагоды завяршэння рэстаўрацыйных прац у свята Узвышэння Святога Крыжа адбылася св. Імша. Набажэнства ўзначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі. Падчас гаміліі іерарх разважаў аб значэнні крыжа як сімвала хрысціянства.

На заканчэнне ўрачыстасці вернікі разам са святарамі памаліліся ў інтэнцыі памерлых, якія пахаваны на мясцовых могілках. Затым пробашч парафіі падзякаваў дабрачынцам, ахвярадаўцам і ўсім людзям добрай волі, якія спрычыніліся да аднаўлення капліцы.



## Рэкалекцыі для студэнтаў катэхетычных курсаў прайшлі ў Шчучыне

*Падчас сустрэчы будучыя катэхеты ўдзельнічалі ў канферэнцыях, св. Імшах, адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, а таксама дзяліліся досведам свайго духоўнага жыцця.*

Сёлета разважанні праводзіў сталы дыякан Станіслаў Дзям'ян з Сувалкаў (Польшча). Падчас рэкалекцый ён дзяліўся са студэнтамі перажываннем веры, а таксама даваў сведчанне свайго паклікання, распавядаючы пра штодзённую паслугу ў Касцёле і сям'ю. Удзельнікі слухалі рэкалекцыяніста з вялікай цікавасцю.

У Беларусі сталых дыяканаў няма. У свеце гэтую паслугу нясе больш за 30 тысяч мужчын. Як правіла, яны замяняюць святароў там, дзе не хапае служыцеляў. Сталы дыякан адпраўляе набажэнствы, вянчае, праводзіць пахаванні, удзяляе св. Камунію і інш. У адрозненне ад святара, ён не можа адпраўляць св. Імшу і спавядаць. Сталы дыяканат абавязвае да смерці.



## АНОНСЫ

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА КАТЭХЕТАЎ

**26 верасня на распачацце новага катэхетычнага года ў памяшканні біскупскай курыі па адрасе г. Гродна, вул. К. Маркса, 4 адбудзецца спатканне катэхетаў Гродзенскай дыяцэзіі.**

Пачатак у 10.00. Апоўдні ў пабрыгіцкім касцёле адбудзецца св. Імша, якую цэлебруе ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч.

*Запрашаем да ўдзелу!*

### КУРСЫ СЯМЕЙНАГА ЖЫЦЦЯ Ў ГРОДНЕ ХУТКА РАСПАЧНУЦЬ ЧАРГОВЫ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

**Мэтай курсаў з'яўляецца падрыхтоўка кваліфікаваных спецыялістаў для працы ў сямейных кансультацыях.**

На лекцыі па асновах праўдаў веры і хрысціянскай сям'і запрашаюцца ўсе жадаючыя. Заняткі будуць праходзіць у айцоў рэдэмптарыстаў па адрасе: г. Гродна, вул. Курчатава, 20 *(Дзевятоўка).*

*Атрымаць дадатковую інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8-029) 588-42-73 – Ірына Мялешка.*

### КАТЭХЕТЫЧНЫЯ КУРСЫ Ў ГРОДНЕ ПРАЦЯГВАЮЦЬ НАБОР НАВУЧЭНЦАЎ

**Дадзеныя курсы для тых, хто жадае глыбей пазнаць каталіцкую веру і стаць праваднікам на шляху да збаўлення іншых. Праграма ўключае вывучэнне каталіцкай дагматыкі, маральнай і духоўнай тэалогіі, Святога Пісання, катэхетыкі, кананічнага права, літургікі, каталіцкай псіхалогіі і педагогікі, каталіцкага сацыяльнага вучэння, этыкі сямейнага жыцця і інш.**

Навучанне доўжыцца 3,5 гады. Заняткі праходзяць два разы на месяц *(субота і нядзеля)* з кастрычніка па чэрвень. Пасля заканчэння курсаў выпускнікі змогуць аказваць дапамогу ў катэхізацыі ў парафіях.

*Больш падрабязную інфармацыю аб умовах паступлення і навучання можна атрымаць па тэлефонах: (8-0152) 75-33-08, (8-029) 976-15-69.*

### КАТЭХЕТЫЧНЫ КАЛЕДЖ ІМ. ЗЫГМУНТА ЛАЗІНСКАГА Ў БАРАНАВІЧАХ ПРАДАЎЖАЕ ПРЫЁМ АБІТУРЫЕНТАЎ

**Дакументы для паступлення можна падаць да 1 кастрычніка. Каб узгадніць час, пажадана папярэдне скантактавацца з сакратарыятам па тэлефоне або праз электронную пошту.**

Набор студэнтаў адбываецца ў адну з груп па спецыялізацыі на выбар: **катэхетыка** *(для жадаючых працаваць катэхетам)*, **агульная тэалогія** *(без права выкладання катэхізіса)*, **сямейны кансультант.** Навучанне працягваецца 3 гады *(з кастрычніка па чэрвень уключна)* у кожную першую і трэцюю суботу і нядзелю месяца.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефонах: (8-0163) 57-93-07, (8-0163) 57-93-14, (8-029) 513-57-92. Электронны адрас: callegge@gmail.com. Сайт: catcollege.by. Адрас каледжа: 225411, г. Баранавічы, вул. Т. Шаўчэнкі, 6.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**29 верасня 1978 г.** – Ян Павел I, *Папа;*
**30 верасня 1957 г.** – кс. Тэафіл Прышмант, *проб. Старыя Васілішкі;*
**30 верасня 1973 г.** – кс. Пётр Нямыцкі, *проб. Астравец;*
**1 кастрычніка 1984 г.** – кс. Казімір Валентыновіч, *проб. Мсцібава;*
**3 кастрычніка 1968 г.** – кс. Адольф Сакалоўскі, *проб. Міхалішкі;*
**6 кастрычніка 1996 г.** – кс. Станіслаў Роек SchP, *проб. Ліда-Фара;*
**6 кастрычніка 2002 г.** – кс. Антоній Саміла, *проб. Гожа, Путрышкі, Прывалка;*
**7 кастрычніка 1960 г.** – бр. Панталеон Жэбройскі SchP, *Ліда;*
**7 кастрычніка 1962 г.** – кс. Уладзіслаў Красоўскі, *проб. Галынка.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***

# Гораздо важнее отметок теплая атмосфера в семье

*Нередко стремление родителей сделать из своего сына или дочери отличника приводит ребенка к мысли, что учиться стоит не ради познания чего-то нового, а ради «десяток», чтобы не огорчать папу с мамой. В связи с этим, родителям важно не забывать одну простую истину: обучение в школе может сделать ребенка более образованным, социально-приспособленным в будущем к взрослой жизни, но счастливым его сделает только теплое и доверительное общение с близкими и любимыми людьми – семьей.*



**Ольга Парада**
*детский психолог, арт-терапевт*

**Что же могут сделать родители, чтобы ребенок чувствовал себя в школе комфортно и не терял интерес к учебной деятельности?**

- Будите ребенка с утра спокойно. Не подгоняйте его, а лучше улыбнитесь и скажите ласковое слово (даже если вы «вчера предупреждали»). Сделайте ребенку легкий завтрак. Помните, как утро начнется, так корабль и поплывет.
- По возвращению ребенка из школы отложите вопрос: «Какие отметки ты сегодня получил?». Ребенку порой важнее поделиться своими переживаниями и эмоциями о произошедших событиях в школе. Предоставьте эту возможность, спокойно его выслушав.
- Каждый раз, когда вам хочется отругать своего ребенка за плохую отметку или неаккуратно выполненное задание, вспомните себя в его возрасте, улыбнитесь и подумайте над тем, захочет ли ваш ребенок через много лет вспомнить родительские уроки.
- Не стоит наказывать ребенка из-за плохих отметок лишением игр или прогулок на свежем воздухе. Но воспитывайте привычку к неукоснительному и систематическому приготовлению уроков. Они должны быть сделаны всегда и, при этом, хорошо.
- Сочувствуйте своему ребенку, даже если он сильно старался, а результат труда не высок. Объясните, что важны не только высокие достижения, а усвоенные знания, которые он может приобрести в результате ежедневного, упорного труда.



- Постарайтесь поговорить с ним о том, почему что-то не получилось. Обязательно поддержите. Ему очень хочется быть в ваших глазах хорошим. Если быть таковым не получается, ребенок начинает изворачиваться и врать.
- Постарайтесь каждый раз находить, за что можно похвалить ребенка. Отмечать нужно не только результат, но также старания и упорство.
- Если ребенку трудно, и он готов принять вашу помощь, обязательно помогите ему. Главное, выполняйте домашние задания вместе с ребенком, а не вместо него. Конечно, когда вы устали, все легче сделать самим, чем подробно объяснять. Но ведь учитель должен оценивать не совместное творчество мамы или папы, а самостоятельный труд ученика.
- Позволяйте ребенку ошибаться, встречаться с отрицательными последствиями его действий или бездействий. Тем самым вы поможете ребенку выработать самостоятельность и ответственность за свои поступки.

*По данным последних исследований, 56% старшеклассников чувствуют себя комфортно в школе, 39% – умеренно комфортно, 5% – испытывают дискомфорт. В начальной школе комфортно себя чувствуют 72% учащихся. Дискомфорт, в основном, ощущают аутсайдеры, а также учащиеся с низким уровнем учебной мотивации и имеющие конфликтные отношения с учителями. Кроме этого каждый школьник в течение года встречается с критическими периодами: быстрее наступает утомление, снижается работоспособность. Например, у первоклассников – это первые 4-6 недель, практически у всех – конец второй четверти, первая неделя после зимних каникул, середина третьей четверти. В эти периоды родителям стоит внимательнее относиться к состоянию своего ребенка.*

- После школы давайте ребенку возможность отдохнуть. Оптимальное время для восстановления – 2 часа. Но исходя из индивидуальных особенностей своего ребенка, родители могут самостоятельно определить наилучшее время для выполнения заданий, приема пищи, отдыха.

**Родители должны помнить о главном: с какими бы трудностями они не сталкивались в течение учебного года, в их силах создать дома такую обстановку, которая поможет их ребенку чувствовать себя в школе комфортно. Школьник должен понимать, что в семье его принимают и любят не за хорошие отметки, а за то, что он просто есть. Ведь если ребенок живет в атмосфере дружбы и чувствует себя нужным, он учится находить в этом мире любовь.**

**И, наконец, родителям нужно радоваться, что у них есть такое счастье – с кем-то делать уроки, кому-то помогать и взрослеть.**






*Кс. Чэслаў Паўлюкевіч*

## Навошта людзі прыносяць у касцёл воты?

*У хрысціянскай традыцыі практыка ахвяравання вотаў узыходзіць да эпохі сярэднявечча. Асаблівае распаўсюджанне яна атрымала ў перыяды масавых бедстваў (эпідэміі, войнаў).*

*Воты (з лац. donum votivum) – дар чалавека, адрасаваны Богу і Касцёлу, які з'яўляецца выразам падзякі Усемагутнаму за пэўную ласку (вылячэнне ад смяротнай хваробы, захаванне ад небяспекі, нараджэнне дзіцяці і г. д.). Атрыманне міласці Божай можа быць звязана з заступніцтвам святога або з малітвамі перад цудадзейным абразом, фігурай. І тады воты, як правіла, у той ці іншай форме прысвячаюцца заступніку або святыні.*

*Ахвяраванне вотаў носіць прыватны характар і не мае строга ўсталяванай афіцыйнай формы. У якасці дару могуць выступаць самыя разнастайныя прадметы (выява храма, крыж, літургічныя прыналежнасці ці ўборы і інш.). Воты ў выглядзе скульптурных выяў ног, рук, ступняў, далоняў (сведчаць аб цудах ацалення), сэрцаў (сімвалізуюць любоў да Бога і святых), а таксама ружанца (на якім маліўся той, хто атрымаў ласку) або памятных таблічак выраблюяцца з золата або срэбра. Часам гэта можа быць іншы метал, пакрыты пазалотай.*

*На нашых землях воты ў святынях (і асабліва ў санктуарыях) сустракаюцца нярэдка. Часам імі завешаны абразы і нават цэлыя сцэны.*

*паводле grodnensis.by*

ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ



# У Слоніме адбыўся XII Турнір па міні-футболе памяці св. Яна Паўла II

Сёлета спартыўнае мерапрыемства сабрала 16 каманд з усёй Беларусі. Удзельнікаў турніру па традыцыі прымала парафія Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. Раніцай для спартсменаў адбылася св. Імша, якую цэлебраваў кс. Ігар Анісімаў, пробашч слонімскай парафіі. Затым каманды адправіліся на футбольнае поле, дзе былі падзелены на чатыры групы. Перамогу здабыла каманда з Маладзечна. На другім месцы апынулася каманда Грандзічы-Путрышкі, а на трэцім – каманда Мінск-Смаргонь.














# Вогнішча на востраве

*Прывітанне, Маленькі Сябар! Напэўна, у Тваім жыцці здараліся сітуацыі, калі было цяжка пакорліва прыняць сваю долю. З вуснаў гучалі наракання, бо здавалася, што Бог пасылае выпрабаванні несправядліва і незаслужана. Але ўся справа ў тым, што Усемагутны ніколі не памыляецца і лепей ведае, чаго мы патрабуем.*

*Сёння прапануем Табе паразважаць над тым, як часам няпроста зразумець Божую волю.*

*Жорсткі шторм, які разгуляўся ў адкрытым акіяне, пусціў на дно карабель. Стыхія не пашкадавала нікога, акрамя аднаго чалавека. Ацалелы, ён ачуўся на досвітку, выкінуты хваляй на бераг.*

*Чалавек выйшаў на сушу ў надзеі знайсці людзей, але хутка вярнуўся да таго месца, з якога пачаў шлях. Аказалася, што ён апынуўся на невялікім востраве, які "згубіўся" у бязмежным акіяне. Людзей тут не было. Чалавек застаўся адзін.*

*І тады ён змайстраваў сабе хаціну з галінак і абломкаў карабля. Кожны дзень маліў Бога, каб той паслаў яму выратаванне. Але праходзілі дзень за днём, тыдзень за тыднем, месяц за месяцам, а чалавек па-ранейшаму заставаўся ў адзіноце.*

*Аднойчы, правёўшы цэлы дзень у пошуках пражытку, чалавек вярнуўся да свайго ўбогага жылля і ўбачыў на яго месцы папялішча. Хаціна ператварылася ў дымныя вуголлі.*

*– Божа! – у адчаі закрычаў чалавек. – Няўжо мала выпрабаванняў выпала на маю долю? За што Ты караеш мяне, пазбаўляючы і той драбніцы, якая ў мяне была?*

*Заплакаў ад гора, а яшчэ больш – ад бяссілля. Упаў на зямлю, не ведаючы, як яму жыць далей. Ён доўга ляжаў, не падымаючы вачэй. Паступова дзённая прахалода змянілася вячэрняй. А чалавек усё ляжаў і не мог устаць, таму што ў яго ўжо не было сіл.*

*Як раптам чалавек пачуў гукі: такія звыклыя на караблі, але забытыя на беразе. Спачатку ціха, потым усё гучней і гучней. Ён падняў галаву і ўбачыў карабель, які ідзе да вострава. Чалавек узрадаваўся і зразумеў, што выратаваны.*

*– Як вы знайшлі мяне? – спытаў чалавек у маракоў, якія прыплылі да берага.*

*– Мы ўбачылі сігнальнае вогнішча, якое ты распаліў на беразе, – адказалі яны яму.*

*Чалавек не стрымаўся і заплакаў.*

## Увага!

**Працягваецца конкурс малюнкаў "Мая катэхеза".**

*Да ўдзелу запрашаюцца маленькія чытачы, якім прапануецца адлюстраваць у малюнку свой занятак па катэхезе. Гэта можа быць выява вясёлага катэхета ў класе, сумесная размова з бацькамі, развучванне малітваў з бабуляй і інш. Ніякіх абмежаванняў у фантазіі і колерах! Пакажыце, як Вы даведваецеся пра Бога.*

***Удзельнікі конкурсу будуць узнагароджаны прызамі.***

*Чакаем Вашых лістоў на адрас рэдакцыі:* ***230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 4.***

***Спяшайцеся!***

***Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў нумары газеты за 9 кастрычніка.***



## Задумайся:

*Пры якіх абставінах чалавек апынуўся на бязлюдным востраве?*

*Што ён рабіў, каб выжыць?*

*Чаму аднойчы чалавек упаў у адчай?*

*Якія пакуты перажываў у душы?*

*Навошта Бог дапусціў узгаранне хаціны?*

***Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла***

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай у сэрцы заўсёды жыве любоў, паколькі без яе кожны рух губляе сэнс. Няхай Божая міласэрнасць ахінае Вас, а радасць і супакой будуць вернымі спадарожнікамі ў жыцці. Няхай здароўе мацнее, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**
ў Дзень нараджэння ад усяго сэрца складаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, спакойных дзён і здзяйснення мар. Няхай Езус Хрыстус асвячае сваёй ласкай Ваш жыццёвы шлях, Марыя Панна з любоўю чувае, а Дух Святы дадае моцы і аптымізму.

*З малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму**
з нагоды юбілею складаем сардэчныя віншаванні. Няхай Хрыстос узмацняе Вас сваімі ласкамі, адорвае добрым здароўем і доўгім жыццём, а Маці Божая заўсёды вядзе па прыгожых дарогах святарскага жыцця. Шчасці Божа!

*Вернікі з в. Галавенчыцы*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**
з нагоды юбілею жадаем добрага здароўя, задавальнення, сіл для далейшай актыўнай святарскай паслугі. Няхай Маці Божая, якая апекуецца нашай парафіяй і якую Вы так палюбілі, заўсёды будзе для Вас падтрымкай і ўзмацненнем, асабліва ў цяжкія хвіліны.

*Ружанцовыя колы з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу**
з нагоды цудоўнага юбілею святарства жадаем сапраўды духоўнага перажывання гэтых урачыстых дзён. Няхай добры Бог адорыць Вас сваімі шчодрымі ласкамі, добрым здароўем, радасцю і ўменнем пераадольваць клопаты штодзённага жыцця. Углядаючыся ў Любоў Езуса Хрыста Укрыжаванага, трывайце пры Найвышэйшым Святары, нягледзячы на цяжкасці, і будзьце паслухмяным Святому Духу, які прывёў Вас ажно дасюль і прагне сфарміраваць па прыкладзе Божага сэрца.

*Вернікі з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважаны Ксёндз Прэлат Юзаф Трубовіч!**
Няхай з моцай перамянення хлеба і віна Езус дае Вам моц перамянення людскіх сэрцаў, а сам застаецца ў Вашых святарскіх далонях. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя, апякунка нашай парафіі, заступаецца за Вас у Бога на далейшыя гады цяжкіх святарскіх абавязкаў. Сёння мы молімся аб асаблівай ласцы: каб па прыкладзе Найвышэйшага Святара Вы сваім вялікім сэрцам маглі плённа ўздымаць, разблытваць тое, што складана, і нараджаць надзею. Няхай гэтае высакароднае пакліканне і сеянне зярнят Божай праўды прынясе радасць і задавальненне ад выбару такога цяжкага і адказнага жыццёвага шляху.

*Маладыя сем'і з парафіі Безззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Канановічу**
з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, душэўнага супакою і аптымізму. Няхай Твой жыццёвы шлях будзе доўгім, светлым і радасным. Няхай на ім будуць добрыя людзі, якія змогуць заўсёды падтрымаць, а Твая шчырая малітва і мудрыя павучальныя казанні пранікаюць глыбока ў душы і радуюць людскія сэрцы. Няхай Анёл-ахоўнік заўсёды дапамагае ў жыцці. Мы вельмі Цябе любім і памятаем у сваіх малітвах.

*З павагай бацькі, сястра і родныя*

**Шаноўнай Спадарыні Ядзвізе Ярмак**
з нагоды 70-годдзя перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і надзеі на кожны дзень, а таксама нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа і ўсіх Божых ласкаў. Няхай побач будуць добрыя і зычлівыя людзі, а ўсмешка не знікае з Твайго твару.

*Браніслава Патэйка, Ірына Карповіч, Сяржа і Кася*

**Паважанаму Ксяндзу Багуславу Вайтовічу**
з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, душэўнага супакою, добразычлівых і шчырых людзей навокал, сталай апекі Няйсвяцейшай Панны Марыі і шмат ласкаў ад Збавіцеля свету.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гальшанаў*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды Імянін жадаем моцы Святога Духа, усіх Божых ласкаў, сталай апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень жыцця, а таксама здароўя, сілы, радасці, надзеі, моцнай веры і добразычлівых людзей навокал.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Капцёўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Стэцкевічу**
з нагоды Імянін шчыра жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, радасці, штодзённых поспехаў, сіл і стойкасці ў душпастырскай паслузе, усіх Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Бердаўкі, Першамайска*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды Імянін жадаем шмат сіл у рэалізацыі Божых планаў, стойкасці ў пераадольванні цяжкасцей. Няхай побач з Вамі заўсёды будуць гарачыя, шчырыя людскія сэрцы, якія набліжаюць Хрыста бліжнім і шануюць чалавечую годнасць. Няхай Пан Бог бласлаўляе Вас, а Святы Дух пранікае ў глыбіню сэрца і прыносіць радасць, суцяшэнне і дні, напоўненыя Яго дарамі.

*Парафіяне з Капцёўкі*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, стойкасці ў душпастырскай працы, шчодрага плёну на Божай ніве. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік вядуць Вас шчаслівым шляхам, а Святы Дух адорвае ўсімі дарамі. Дзякуем за адкрытае сэрца і шчодрую душу, а таксама за тое, што знаходзіце для нас час і ахінаеце сваёй увагай і апекай.

*Вернікі з Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**
з нагоды юбілею перасылаем мноства сардэчных пажаданняў усіх Божых ласкаў. Няхай святы Заступнік заўсёды апекуецца Вамі, суправаджаючы па жыцці, і моцна трымае за руку. Няхай вера ўзрастае штодня, надзея ніколі не пакідае сэрца, а любоў квітнее ў душы цудоўнай кветкай, адорваючы ўсіх цеплынёй і дабрынёй. Жадаем таксама здароўя, сіл і стойкасці ў душпастырскай працы, нястомнай радасці і добразычлівых людзей побач.

*Былыя парафіяне з Зэльвы сем'і Трубей і Раманчук, Гродна*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Малафею**
з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, апекі Маці Божай Міласэрнасці і святога Заступніка. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена Божай радасцю, любоўю, святлом Духа Святога. Жадаем душэўнага супакою, аптымізму, нязгаснага запалу веры, надзеі і любові. Няхай міласэрны Бог адорвае сваім бласлаўленнем, а моц і сіла выплываюць з Хрыстовага крыжа. Няхай Божае слова, якое Вы абвяшчаеце, здзяйсняе цуды ў людскіх сэрцах, а Святы Дух шчодра спасылае на Вас свае дары. Ад усяго сэрца дзякуем за працу ў нашай парафіі.

*З малітвай і павагай парафіяне з Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рамаоўскаму**
з нагоды 13-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, апекі Беззаганнай Маці – заступніцы нашай святыні, Божага бласлаўлення на нялёгкім святарскім шляху. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны промнямі Божай міласэрнасці.

*З удзячнасцю і дарам малітвы вернікі з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4691; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная